Opłata pocztowa opłacona ryczałtem.

№ 21—(61). Вільня, 8 чэр[illegible] у.



# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
| --- | --- | --- |
| Wilno (Вільня), Сьвятаянская вул. (ul. Świętojańska) № 9, кв. 1. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за $^1/_2$ — 65, за $^1/_4$—35, за $^1/_8$—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Ад Рэдакцыі.

Рэдакцыя просіць сваіх чытачоў-корэспондэнтаў, каб творы свае пісалі чытальна, пакідаючы даволі месца паміж радкамі для патрэбных паправаў, чым шмат аблягчаць працу Рэдакцыі.

## Гістарычнае прошлае і новыя фактары.

Апошняя вялікая вайна, падчас якое крывавіліся ўсе бяз мала народы, ў сваём выніку паклікала да новага дзяржаўнага жыцьця шмат новых гаспадарстваў і адбудавала істнаваўшыя, а загубленыя ў свой час, дзяржаўныя арганізмы.

Сусьветная справядлівасьць ад'жыла нанова, зьявілася з агню паленых вёсак і местаў, нішчанага людзкога жыцьця і дабрабыту масаў. Вачавідна праявілася гэтая справядлівасьць на прыкладзе адбудаваньня Польшчы і ўпадку двух дзяржаваў з-паміж трох, якія ў канцы XVIII стагодзьдзя былі вінавайцамі зьнішчэньня незалежнае Польшчы.

Складаючы вялікія ахвяры на палёх бітваў, у акопах і нават далёка ад фронту, чалавецтва шукала сэнсу і апраўданьня гэтых вялікіх ахвяраў і знайшло іх у вялікім лёзунгу, у імя якога вялася нібы вайна 1914-1918 г. Гэтым лёзунгам было — права народаў да самавызначэньня, права да будовы дзяржаўнага жыцьця для кожнага народу.

Ужо ў 1917 г. вялікі амэрыканскі прэзыдэнт Вільсон аб'яўляе гэты лёзунг, як галоўную падставу перабудовы палітычнага жыцьця старое перадваеннае Эўропы.

Гэты лёзунг захапіў усе народы, выклікаў магутны ўзрух народнае псыхікі, якая звольніўшыся ад даваеннае орыентацыі на вялікія дзяржаўныя арганізмы, зраджала моц і сілу вызваляючыхся народаў.

Ня ўсім аднак суджана было лёсам гісторыі дабіцца зьдзейсьненьня народных ідэалаў.

Беларусы, Украінцы, Грузіны і яшчэ іншыя аказаліся далёкімі ад зьдзейсьненьня лёзунгу самавызначэньня і асталіся на поўдарозе ў сваём паходзе да адбудовы народных незалежных дзяржаваў.

Сусьветная справядлівасьць прайшла міма многіх народаў, пакідаючы толькі ў іх імкненьне да незалежнасьці і веру ў неабходнасьць і магчымасьць зьдзейсьненьня яе.

Пасьля вайны чалавецтва з гадамі пазнала ўсю страшную спадчыну вялікае бойні, калі ўсе высілкі яго былі скіраваныя на нішчэньне адных другімі, калі перасталі быць правам моральнасьць і этыка, любоў і міласэрдзьдзе, а само права сталася правам сільнага.

Дагэтуль яшчэ ўсе мы адчуваем скуткі вайны, бяз розьніцы таго, ці знаходзімся сярод выйграўшых, ці прайграўшых вайну.

Вайна паставіла чалавецтва перад неабходным заданьнем знайсьці новую дарогу ўкладу соцыяльных, грамадзкіх і палітычных адносінаў у кожнай дзяржаве, а яшчэ ў большай меры новага спосабу міжнароднага сужыцьця.

Спробы камунізму і фашызму, якія меліся

быць гэтым новым словам, аказаліся блуднымі, ня будуючымі жыцьця, а руйнуючымі яго.

Вялікая ідэя Лігі Народаў гэтак сама дагэтуль ня вылілася ў рэальныя спробы лепшага ўкладу міжнародных адносінаў. Бо дагэтуль чалавецтва і дзяржавы па старой прывычцы ідуць даваеннымі шляхамі. А шляхі гэтыя вельмі небясьпечныя і могуць давясьці да новае бойні, яшчэ горшае, яшчэ больш бесчалавечнае, якое малы абразок нядаўна перажыло прадмесьце Гамбургу ў атручаным фосгэнам паветры.

Вайна і першая чэцьверць XX стагодзьдзя высунула на гарызонт грамадзкага і палітычнага жыцьця новыя сілы, якіх да вайны ня было, або якія ня мелі ўплыву на бег жыцьця.

Такімі сіламі зьяўляюцца: паглыбленьне дэмакратызацыі палітычнага ладу ў Эўропе, далейшае разьвіцьцё нацыянальных проблемаў, прабуджэньне сялянства, як новае соцыяльнае клясы, а разам з гэтым занік рэштак феодальных адносінаў у зямельным пытаньні.

Гэта ўсё разам з усьцяж узрастаючаю і паглыбляючаюся коопэрацыяй паміж паасобнымі народамі ня можа быць пакінена бяз увагі пры будове новых шляхоў, як у дзяржаўным, так і міждзяржаўным жыцьці.

Да разьвязкі многіх балючых справаў, якія дагэтуль хвалююць палітычнае жыцьцё, трэба падходзіць з прадпасылкаю істнаваньня гэтых новых проблемаў, часта адкідаючы нядаўны, адышоўшы ўжо ў прошласьць, уклад сілаў і адносінаў.

Пакліканьне з мінуўшчыны, з гістарычнага прошлага пэўных справаў і прадпасылак цяпер часта ня можа мець месца і зьяўляецца праціўным і нягодным новага ваеннага ўкладу соцыяльных і паваенных тэндэнцыяў нашага жыцьця.

Істнуючая паміж Польшчай і Літвой спорная справа, якая датычыць лёсу Вільні і Віленшчыны, а таксама значнай часьці Заходняе Беларусі зьяўляецца жывым доказам неабходнасьці пакінуць даўныя гістарычныя прадпасылкі, а апірацца на новыя жыцьцёвыя фактары і імкненьні, якія выразна выступілі пасьля вайны. Яны разьвіваюцца далей і заўсёды будуць мець уплыў на разьвязку Віленскага пытаньня. Яго выйграе тая старана з заінтарасаваных у ім, якая будзе прымаць пад увагу гэтыя новыя сілы і тэндэнцыі, адкідаючы на бок гістарычныя прадпасылкі.

## Гляньце на сябе.

У № 18 (58) „Бел. Дня", у артыкуле „Аб радыкалах і радыкалізьме", мы далі характарыстыку паняцьця радыкалізмі, прыраўнаваўшы да яе палітычны сьветапагляд нашых „радыкалаў" з „Голасу Працы", зрабілі адзіны магчымы вывад, што людзі з „Голасу Працы" з радыкалізмам ня маюць нічога супольнага. Далей, затрымліваючыся на тым, што пісалі аб парлямэнце „радыкалы" з „Голасу Працы" у № 6 свае часопісі, у артыкуле „Фразы і сапраўднае аблічча сель-саюзьнікаў і хадэкаў", у каторым яны кажуць, што Сойм ёсьць нішто іншае, як панаваньне буржуазіі над працоўнымі і канчаюць заявай, што выбраныя ў Сойм паслы для народу нічога ня зробяць, мы зрабілі параўнаньне з тым, што казалі і кажуць камуні-

## Беларуская Народная Творчасьць.

### (Казкі Паляшукоў).

(Гл. № 19 (59) „Белар. Дня".)

Народ бачыць соцыяльнае зло, народ у сваёй масе вялікі оптымісты і верыць у адаленьне гэтага зла. Мала таго, народная беларуская мудрасьць, удумаўшыся ў прычыны зла і пазнаўшы іх, паказвае шлях, па якім ідучы, чалавецтва пазбудзецца зла.

Прычыну несправядлівасьці на сьвеце відзіць казка ў тым, што людзі пачалі па загаду шатана (злое сілы), браць уладу адзін над другім, сільнейшыя над слабейшымі.

„Давай гэта дужэйшыя адбіраць ад слабейшых, што тыя зробяць, давай іх прымушаць рабіць на сябе, *давай імі ўладаць, бы сваім дабром*. І аддаў шатан усіх слабейшых людзей у рукі дужэйшых і хітрэйшых, якіх зрабіў панамі".

„*І пашло з тае пары ліха на зямлі, пашло такое ліха, што і сказаць ня можна*".

Далей казка гаворыць аб тых падзеях, якія былі штодзенным зьявішчам у часе найгоршага прыгону. „Пачалі паны зьдзекавацца над людзьмі, быццам гэта ня людзі, а гаўядо". Далей казка мастацка характарызуе псыхолёгію паноў-прыгоньнікаў і адносіны іх да мужыкоў, а таксама да прыгону.

„Бог бачыў крыўду людзей, — кажа казка, — паслаў сьвятых анёлаў, каб тыя баранілі людзей ад зьдзеку. Анёлы спаткалі такі адказ ад прыгоньнікаў-паноў: „Мужык бяз пана абыйсьціся ня можа; б'ецца, дзярэцца — сьцеражы ты Божа! Над мужыком трэ' стаяць з бізуном над каркам, ды яшчэ трымаць воз *лазы* за хвальваркам, бо ў мужыка такая натура, што бяз бізуна сьвярбіць скура. *Адно ліха на сьвеце будзе, як мужык вольнасьць дабудзе*. Сьвет перавядзецца, адна бяда астанецца".

У гэты спосаб зусім праўдзіва перадае народ, які цярпеў прыгон, пагляд пана на прыгоньніка селяніна. І сапраўды так матывавалі староньнікі захаваньня прыгону патрэбу ўтрыманьня яго, падняволеньня аграмаднае клясы народу невялікаю групаю людзей.

Народная мудрасьць не спагадае зьдзеку чалавека над чалавекам. Казка гаворыць, што паны зьдзекуюцца над слабейшымі па загаду шатана, чорнае сілы, якая процістаўляецца сіле Бога і сіле яснага розуму, які вывядзе людзей на шлях ясны і роўны, дзе ўжо ня будзе ліха і зьдзеку.

Але вось і паном, гэтым сільным і моцным людзям псуецца жыцьцё. Пачынае і ім дапякаць ліха, бо „яны пачалі вымышляць, ды адзін другога есьці, пажыраць". „І няма ратунку ад такога жыцьця, бо яно ўсё, бы каменя куча: зьверху цяжкое каменьне, дробных на пясок расьцёрла, што ляжаць на доле; зьверху іх гнятуць (ціснуць)

стыя аб парлямэнцкім прадстаўніцтве і прышлі да вываду, што: *„разважаньні „Голасу Працы“ вельмі падобны да ўсяго таго, што камуністыя пісалі і пішуць аб парлямэнтах. Гэтак яны пачалі пісаць аб парлямэнце толькі ад 1917 г., калі прыйшлі да ўлады і баяліся, каб парлямэнт яе ад іх не адабраў“.*

Гэткім чынам мы паказалі аднальковасьць сьветапагляду „радыкалаў“ з „Голасу Працы“ з камуністымі, якія зьяўляюцца запярэчаньнем сапраўднага радыкалізму і дзеля гэтага радзілі „Голасу Працы“ не тытулаваць сябе прэсай радыкальнай, знаходзячы больш адпаведным для яе назоў *„лёкайскай прэсы савецкага фасону“*.

„Праўда коле вочы“, — кажа прыказка. Тым болей коле, што змагацца з ёю трудна. Укалола яна і „радыкалаў“ з „Голасу Працы“.

I вось яны ў № 12 сваё часопісі пасьвячаюць закранутай намі справе цэлы ўступны артыкул пад загалоўкам: „Мае голас дэфэнзыва“.

Чытаючы гэты артыкул, хацелася знайсьці ў ім адказ на нашыя закіды, знайсьці крытыку нашае аргумэнтацыі, якая прывяла нас да гэнага няпрыемнага для „радыкалаў“ з „Голасу Працы“ вываду, альбо, прынамсі, звычайнае запярэчаньне нават без аргумэнтацыі, што: „вось вы брэшаце, нашая ідэолёгія з камунізмам ня мае нічога супольнага і мы зьяўляемся такі радыкаламі“. Нічога гатага, нажаль, у гэтым артыкуле, няма.

Прачытаўшы яго, можна прыйсьці толькі да пераканаiньня, што „радыкалы“ з „Голасу Працы“ зусім згаджаюцца з нашымі доказамі і зробленымі з іх вывадамі і абураюцца на нас толькі за тое, што знайшліся сякія-такія сыны з „Бел. Дня“, якія чорным па беламу асьмеліліся напісаць гэта.

Вось дзеля чаго ўвесь гвалт, усе лаянкі, галоўны матыў каторых: „дэфэнзыўшчыкі“ і „даносчыкі“. Лаянка, паночкі, гэта не аргумэнтацыя. Лаюцца тады, калі іншых спосабаў даказаць свае праўды няма.

Але некалькі словаў аб дэфэнзыўшчыках і даносчыках.

Аўтор артыкулу: „Мае голас дэфэнзыва“ відаць добры спэцыялісты ад гэтых справаў, кажа: *Ёсьць яшчэ адзін род дэфэнзывы ў популярным значэньні гэтага слова—гэта, гэтак званая „жоўтая прэса“, якая мае за спэцыяльнае заданьне дыскрэдытаваць, паніжаць у вачох народу і „Охраннаго Отделенія“, прэсу ідэйную“.*

Трэба прызнаць, што характарыстыка паняцьця „жоўтай прэсы“ робіць гонар яе аўтору. Калі дадзенае аўтарам паняцьце „жоўтай прэсы“, пераложыць на звычайную мову, то выходзіць гэтак, што ўся беларуская прэса, непадзяляючая думак „радыкалаў“ з „Голасу Працы“ і вядучая з імі змаганьне, якая істнуе, істнавала і будзе істнаваць у будучыне, зьўляецца „жоўтай прэсай“, бо ведама, вядучы полеміку з ідэолёгіяй паноў з „Голасу Працы“, каторыя, трэба думаць, залічаюць сябе за рэпрэзэнтантаў ідэйнай прэсы, выказваючы іх абмылкі, выказваючы шкоднасьць іх працы, а вельмі часта звычайную ману і ашуканства, — лёгка ў кожным выступленьні процi іх ідэолёгіі знайсьці паніжэньне і дэскрэдытацыю іх у вачох грамадзянства, а знача, знайсьці характарную адзнаку „жоўтасьці“. Трэба глыбока верыць у наіўнасьць сваіх чытачоў, каб даючы гэткую характарыстыку „жоўтай прэсы“ думаць, што яны не пазнаюць праўдзівай мэты пісак „Голасу Працы“ апаганіць у вачох сваіх чытачоў усё, што ў беларускім грамадзянстве мае адвагу думаць іначай, чымся яны і ня хоча скакаць пад іх дудку.

Тое самае, а ня іншая мэта наказала ім пісаць аб даносе „Беларускага Дня“, які, паводлуг іх словаў, палягае на тым, што паноў „радыкалаў“ з „Голасу Працы“ мы назвалі „лёкайскай прэсай савецкага фасону“. Сьмех і абурэньне ахапляе

---

другія, а на тых ляжаць і ціснуць яшчэ цяжэйшыя; зьверху-ж лёг адзін вялікі камень“.

Маем тут сымбалічна прадстаўленую сыстэму соцыяльнага і грамадзкага ладу нядаўняга часу, яшчэ памятную нам—абсолютызму царскае Расеі, калі будзем глядзець на справу з палітычнага боку.

Або і на сяньняшні дзень гэты абраз, нарысаваны зборнай думкай народу, абраз суровы і цяжкі каменнае кучы мае шмат цікаўнага. I сяньня яшчэ істнуе гаспадарчая прынука, клясавая будова грамадзянства, дзе адны клясы расьціраюцца другімі. Так было спрадвеку, кажа казка: „От гэтак спрадвеку і да тых час ліха людзей давіць, ліха ціснe людзей зьверху к долу, бы ў кучы каменьні. Трашчыць куча, трэ каменьні, на жарству іх трэ на доле; трашчыць і хутка асядае да ўсё ніжыцца да долу. Мабыць скора затрашчаць падпоркі і рассыплецца ўся куча“, — кажа казка.

Народ верыць у паправу жыцьця, якую прынясе „ясны розум“, што адалее ўсё ліха, але маючы гэты оптымізм, перасьцерагае перад катастрофай, якая можа здарыцца з чалавецтвам, калі клясы дужэйшыя не зразумеюць патрэбаў імкненьняў слабейшых, а будуць глухія і цьвёрдыя, як каменьні.

Перасьцерагаючы перад катастрофай, казка навучае людзей, у які спосаб можна ўсьцерагчыся ад яе. Ізноў маем цэлую сыстэму, лёгічна абаснованую, грамадзкага солідарызму.

„Адзін чалавек ня мае моцы, ён бы чарвяк, бы тая былінка ў полі: наляціць вецер, закруціць хвіля дый сатрэ, зраўняе з зямлёю. Быў чалавек і няма, бы й на сьвет не радзіўся. Толькі тады чалавек моцны, як ён не адзін, а жыве з другімі людзьмі ў згодзе і ладзе. I чаго толькі ня зробяць людзі, калі возьмуцца за справу грамадою, бы адзін чалавек. Але вось гэтага і ня зналі людзі, ня зналі, як жыць на сьвеце, каб усім было добра. Кожын цёг да сябе, кожын кошкаў к сабе, кожын на другіх, як на ворагаў, пазіраў і кожын другіх ворагамі меў. I затрацілі людзі ўсе свае сілы толькі на тое, каб адалець сваіх ворагаў — такіх самых людзей, як і яны.

*Так спрадвеку біліся людзі, нішчылі адны другіх. Вось ад чаго ліха на сьвеце.*

Але як сказаў Бог, так і сталася: радзіўся на сьвеце ясны розум і пачаў расьці. Розум хоць ціха памаленьку, ды ўсё расьце і падымаецца на ногі“.

Пачынаюць разумець людзі, што сіла ў арганізацыі, у солідарнасьці, у супольным змаганьні за справы свае і сваіх братоў, такіх самых, як яны.

„От як вырасьце той, ясны, бы сонейка, розум, ды пачне сьвяціць людзям у вочы, тады ўсе пазнаюць, з чаго ліха на сьвеце, пазнаюць праўду, цаднімуцца ў згодзе, бы адзін чалавек, прагоняць паганую нечысьць і зажывуць на зямлі, бы ў раі“. *С.*

чалавека, калі бачыш, як „Голас Працы“ шукае „даносчыкаў“ у „Бел. Дні“ пасьля таго, як на працэсе, блізкай ім па ідэолёгіі, нябожчыцы „Грамады“ выявілася, што агенты „ахранкі“ займалі ў ёй вельмі ганаровыя пасады, пасады старшынь і сэкрэтароў грамадоўскіх павятовых камітэтаў, пасады, каторыя давалі доступ да ўсіх яе сакрэтаў, усіх таямніц; шукаюць даносчыкаў звонку сябе, тады калі гэты працэс стварыў такую атмасфэру духаты і бруду каля іх, што цяпер, чытаючы артыкул, загалоўку каторага яны хацелі, быць можа, даць якое іншае значэньне, а з каторага гэтак б'е крыніцай лаянкі і бруду, што паўстае паміма волі пытаньне: ці не дайшоў да голасу на старонках „Голасу Працы“, які новы агент дэфэнзывы, каторага лічаць яны за свайго чалавека?

Паночкі з „Голасу Працы“, сябе з бруду ачысьцьце і тады можна будзе зразумець вашае шуканьне гэтага бруду там, дзе яго няма, а пакуль гэты бруд так атуляе вас з ухіх бакоў, што ня відаць за ім вашага праўдзівага твару, да таго часу вашыя гутаркі аб ідэйнасьці і чыстаце будуць, у вачох беларускага грамадзянства, гутаркамі простытуткі аб нявіннасьці.

## Як будзе выглядаць вайна ў найбліжэйшым часе.

**(Сьмерць ад газаў у Гамбургу).**

Ужо ў 1915 г. на францускім фронце, першы раз у гісторыі вайны, немцы выпусьцілі процію французаў і ангельцаў газы, ад якіх згінула шмат войска. Газ гэты забіваў і калечыў усіх, хто папаў пад хвалю паветра, атручанага газам.

Пасьля былі знойдзены маскі, якія забясьпечвалі людзей ад газу. Жаўнер у масцы мог пераньсьці бяз шкоды атручанае газам паветра, бо дыхаў паветрам чыстым, якое, прайшоўшы праз маску, ачышлалася.

Але ўжо пад канец вайны вучоныя хімікі пачалі вытвараць такія страшныя газы, ад якіх нельга абараніцца якімі-колечы маскамі.

Ёсьць газы, што паляць адзежу, разьядаюць цела і атручваюць увесь арганізм. Ад такіх газаў няма ніякага ратунку, толькі вялікі дождж можа ачысьціць паветра ад атруты.

У кожнай дзяржаве працуюць вучоныя над спосабамі вытварэньня такіх газаў, ад якіх ніяк нельга абараніцца, бо ўсім цяпер ясна і зразумела, што ў прышлай вайне, якая-б пачалася, змагацца будуць не гарматамі, не пяхотай, не кавалерыяй, а аэрапланамі (самалётамі) і газамі.

Цэлыя эскадры самалётаў будуць абкідаць войска і месты ворагаў страшэннымі газавымі бомбамі, якія зьнішчаць усё, што жыве і расьце.

У найгоршым палажэньні ў гэтай будучай вайне акажуцца тыя людзі, якія ня будуць прызваны на вайну, г. зн. цывільнае, спакойнае насельніцтва, бо яно ня будзе мець ані масак, ані сховаў ад атруты.

Гэтымі днямі вялікае нямецкае партовае места Гамбург пераажыло на практыцы абразок з вайны недалёкага будучага.

На адным з востравоў каля Гамбургу існуе фабрыка газаў Штольцэнбэрга. Як падаюць нямецкія газэты, гэтая фабрыка ад 1921 г. выраблае ўдушлівыя газы для С.С.С.Р. Дзеля таго, што выраб газаў у Нямеччыне забаронены Вэрсальскім дагаворам, дык дзеля захаваньня таямніцы аб фабрыкацыі ўдушлівых газаў у фабрыцы Штольцэнбэрга працавалі толькі камуністыя.

Некалькі дзён таму назад, лопнуў балён з газам-фосгэнам, і хваля атручанага паветра пайшла на места Гамбург. Страх напоўніў сэрца гамбурскіх немцаў, калі даведаліся, што атручанае паветра йдзе на места і пагражае ім сьмерць. Крыкі: — „Атручаны газ ідзе на места“ — разьляга-

## Аб гыпнотызьме.

(Гл. „Бел. Дзень“ № 19).

Ёсьць людзі, якія ня ведаючы праяваў гыпнотызму, няраз хочуць бачыць у ім зьявішчы цудоўныя і путаюць яго з сьпірытызмам. Гэта вялікая абмылка. Бо калі гэнае выклікаиьне духаў, гэная матэрыялізацыя духоўнай істоты чалавека, чым займаецца сьпірытызм, сапраўды пахне альбо нейкім цудам, альбо звычайным шарлатанствам і ўстанаўленьне нейкай сувязі чалавека з духамі, ў істнаваньне каторых мы можам толькі верыць, але пазнаньне каторых ня маем магчымасьці, зьяўляецца незразумелым, бо закранае галіну ўплыву жывога чалавечага арганізму на тое, што недаступна яго пазнаньню, то зусім інакш выглядае справа з гыпнотызмам. Тутакі мы маем зьявішча нейкай дзіўнай сувязі паміж псыхічнай істотай аднаго чалавечага арганізму з псыхічнай істотай другога.

У істнаваньні гэткай сувязі мы можам пераканацца з штодзеннага жыцьця.

Хто з нас ня ведае які ўплыў мае на чалавека кампанія? Чалавек, які прыстае з злыдзеямі, сам з часам робіцца злодзеем. Чалавек, які пападзе ў кампанію п'яніц, сам зробіцца п'яніцай. Ёсьць нават прыказка: „Скажы мне, з якімі людзьмі ты дружыш, а я табе скажу, хто ты такі“. Вось гыпнотызм і ёсьць нішто іншае, як навука, якая мае на мэце распазнаць тыя варункі, у якіх уплыў псыхічнай істоты аднаго чалавека на псыхічную істоту другога зьяўляецца найбольшым і ў канчатковым сваім рэзультаце, як мы бачылі з таго, што я ўжо казаў раней, прыводзіць да поўнага падпарадкаваньня волі аднаго чалавека волі другога. Як я пераканаўся з свае практыкі, найважнейшым варункам для гэтага, зьяўляецца разбуджэньне гыпнотызорам у гыпнотызованага веры, што ён сапраўды можа накінуць яму сваю волю. Другім варункам, быць можа ня менш важным, зьяўляецца тое, каб гыпнотызованы хацеў падданца волі гыпнотызора, хацеў, каб яго загыпнотызавалі. I калі другі варунак толькі аблягчае задачу гыпнотызору, то першы — зьяўляецца неабходным. Калі веры ў сваю магутнасьць гыпнотызор не патрапіць разбудзіць у гыпнотызованага, то нават пры добрай волі яго, пры ўсім жаданьні гыпнотызованага быць загыпнотызованым, гыпнотызор не патраціць загыпнотызаваць яго.

Як бачым, элемэнт веры йграе туткі вельмі важную ролю і зьяўляецца парукай удачы. Але ці-ж гэтага самага мы ня бачым у штодзенным жыцьці? Хвораму заўсёды найлепш памагае той

лісся кругом. „Людзі гінуць кругом без ратунку!“ „Канец месту“.

Вуліцамі Гамбургу імчаліся самаходы з пажарнікамі ў масках, якія разьлівалі па вуліцах нашатырны сьпірт, адзіны сродак проціў фосгэну. Да самае фабрыкі не ўдалося адразу даехаць нават і ў масках. І ў працягу трох гадзінаў перадавалася вестка, што газу вельмі многа.

Першылі згінулі ад газу, як падае „Głos Prawdy“, два рыбакі, якія недалёка ад фабрыкі лавілі рыбу.

Хваля атручанага газам паветра хутка дайшла да работніцкага кварталу і пачала душыць людзей. Няшчасныя пашалелі са страху, адразу адчулі недахоп паветра, разрываючы грудзі кашаль, обмарак, пасьля якога наступала сьмерць. Калі-ж не адразу забіваў газ, дык сьмяртэльна калечыў лёгкія, пасьля чаго па доўгіх муках наступае сьмерць. Калі прыехалі пажарнікі і вызваныя з Бэрліну людзі з маскамі на месца выбуху газу, засталі пазачыняныя дзьверы і вокны дамоў, бо няшчасныя людзі, якія падпалі пад хвалю газу, думалі гэткім спосабам, зачыніўшы вокны і дзьверы, уратавацца ад сьмерці.

Пажарнікі мусілі разьбіваць вокны, сілаю надзяваць маскі і выводзіць ашалелых ад пагрозы сьмерці напоў ужо атручаных людзей. Яны зусім ня слухалі ратаваўшых іх пажарнікаў, уцякалі ў поле, дзе якраз гразіла найбольшая небясьпека. А другія адказваліся крануцца з месца, сядзелі і чакалі цуду, або сьмерці. На шчасьце выпаў дождж і падняўся сільны вецер, які разьвеяў атруту на мора. А каб ня гэтая помач неба, дык у Гамбургу здарылася-б адна з найвялікшых катастрофаў. Увесь Гамбург мог-бы перастаць існаваць. Сталася-б тое, што грозіць усім местам у выпадку вайны, падчас якое ўдушлівы газ будзе галоўным аружжам.

У выніку гэтага выпадку на працягу 17 вёрст ад месца выбуху фосгэну выгінулі ўсе каровы, коні, сабакі, каты і птаства.

Атручаных людзей каля 400 асобаў. Памёрла каля 40. Яшчэ да гэтага часу, хоць ужо прайшло больш чымся 10 дзён ад узрыву, аб'яўляюцца новыя ахвяры фосгэну. Па прыказу паліцыі зьнішчаны ўсе прадукты на абшары, дзе прайшла газавая хваля. Але найгоршае тое, што фосгэн можа доўга аставацца затоеным у ямах і ўглыбленьнях грунту.

Фабрыку Штольцэнбэрга, які ня меў права вырабляць гэты ўдушлівы газ, зачынілі. А запасы газу маюць быць пераліты ў спэцыяльныя бутэлькі і вывезены ў мора, дзе іх апусьцяць на дно.

Гэты відавочны прыклад прышлае, а мо' і недалёкае вайны, павінен змусіць усіх задумацца над тым, якія няшчасьці чакаюць чалавецтва, калі яно ізноў апыніцца ў варожых, ваюючых арміях.

Апошняя вайна паказала, што ворагі стасуюць усе магчымыя і немагчымыя спосабы нішчэньня чалавека і ўсяго жывога на зямлі.

Новая вайна можа аказацца, як пішуць усе ваенныя фахоўцы і знаўцы сучасных спосабаў вядзеньня вайны, катастрофаю ўсяго чалавецтва, загубаю яго і ўсяго жывога на зямлі.

Можа гэта змусіць людзей і тых, хто кіруе лёсамі мільёнаў, знайсьці іншы спосаб ліквідацыі спорных пытаньняў, чымся вайна, бо яна нясе згубу ўсім нам. *С.*

---

**Чытайце, выпісвайце і пашырайце „БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ“.**

---

дохтар, якому ён верыць, што можа яго вылячыць. Толькі верай таксама можна вытлумачыць, чаму іншы раз таму ці іншаму чалавеку памагае шаптун, асабліва, калі лячэньне сваё абмяжоўвае ён толькі да выпаўненьня нейкіх таемных, няшкодных чалавеку, наказаных, шаптуном, абрадаў, як есьці, напрыклад, прад заходам сонца скарынку хлеба, на якой выпісаны некія малітвы, альбо іншыя таёмныя словы. Ня хлеб тут памагае, не таёмныя словы выпісаныя на ім, а толькі глыбокая вера хворага, што гэты шаптун мае моц вылячыць яго.

Паночкі, шаптуны і знахары! Быў-бы вельмі рады, каб гэта, што пішу, папала і ў вашыя рукі і каб, прачытаўшы маю пісаніну, вы ўрэшце зразумелі, у чым ваша моц і сіла, і заместа таго, каб варыць нейкае зельле, каторае вельмі часта можа завясьці хворага на той сьвет, вы лепш стараліся выкарыстаць для іх дабра, веру ў людзей у вашу моц памагчы ім і давалі сваім пацыентам, калі яны дамагаюцца, лякарства, толькі вады з цукрам, альбо гарбаты з румянку.

Ведайце, што тым, хто верыць у вашу моц, яны таксама добра памогуць, як усе вашыя зельлі, а тых, хто ня верыць вам, прынамсі не атруцяць.

Але вяртаюся да справы. Вера ў моц іншых людзей, як мы бачым, зьяўляецца падставай падпарадкаваньня волі сваё волі іншага чалавека. Але чалавек можа верыць ня толькі ў моц іншых людзей, ён можа таксама верыць і ў сваю ўласную моц. Бываець гэтак, што прыступаючы да якой-небудзь справы, да якой-небудзь работы, чалавек верыць у пасьпех яе, верыць у яе ўдачу. І тады, надзіва, гэткія справы, гэткія рэчы амаль заўсёды ўдаюцца чалавеку. І наадварот, калі, прымаючыся да якой-небудзь работы, чалавек ня верыць у добры рэзультат яе — яна не ўдаецца.

Прычына няўдачаў нашага сялянства найчасьцей і крыецца ў гэтай малой веры ў свае сілы. Надумае чалавек адзін, альбо цэлая грамада што-небудзь рабіць, радзяць, а туткі нехта крыкне: „Нічога з гэтага ня будзе“, і калі рэшта гэтаму голасу паверыць, ну, тады лепш і ня брацца за работу. Але калі ёсьць вера ў тое, што задуманае ўдасцца, тады палова работы ўжо зроблена. Гэную веру ў сваю моц і сілу таксама, як і веру ў моц і сілу іншых людзей, можна ўзгадаваць у сабе.

Узгадаваньнем веры ў моц і сілу начальніка можна вытлумачыць вайсковую дысцыпліну, калі жаўнер прывыкае слухаць свайго начальніка і з часам дасягае таго, што воля начальніка для яго закон, што па прыказу яго ён робіць тое, ча-

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Некалькі ўвагаў аб гадоўлі рагатага быдла.

Народы, якія разумеюць вялікую вагу гадоўлі быдла, багацеюць, бо-ж ня толькі добрая зямля ёсьць падставай дабрабыту земляроба, і на бедных, балотных грунтох можна рабіць цуды, калі толькі прасьвета і сумленная праца маецъ зразумленьне ў народзе. Калі-б мы мелі гэткія дрэнныя і балотныя грунты, як сяляне Даніі, і гэтак гаспадаравалі на іх, як дагэтуль, паўміралі-б ужо даўно з голаду; тымчасам народ гэты зьдзіўляець нас сваім багацьцем і нават справаджвае да сябе ад нас працаўнікоў, ня могучы сам падолець свае працы.

А дзякуючы чаму яны гэтак багацеюць? Вось-жа: гадоўля кароў, якую яны давялі да дасканаласьці, даець ім можнасьць зьбіраць мільёны за малако, масла, мяса і прадажу жывога інвэнтару. Сяляне тамтэйшыя маюць вялікую ахвоту да навукі, да прасьветы, яны зразумелі, што іх благая зямля ня можа іх пракарміць, а тым болей збагаціць. Яны перарабілі свае тарпянішча і верасавішча на ўраджайную ральлю, дзякуючы вытрывалай працы і навуцы, так што сяньня, апрача дасканалай зямлі, маюць якнайлепшы інвэнтар і каля 2000 малачарняў. Сяньня лічыцца ў Даніі дзьве каровы на $1^1/_2$ гэктары, гэта значыць, што Данія маець на 3 гэктары чатыры добрыя дойныя, вельмі карысныя каровы. А колькі кароў маець наш гаспадар на такім-жа кавалку зямлі? Вось-жа маець найчасьцей адную худзенькую, без малака, часта гэткую, што не дае ніякае карысьці кароўку.

Нічога тады дзіўнага, што мусім часта на нашых добрых зямельках галадаць, і шукаць марнага хлеба ў чужых.

Мусім вучыцца, чытаць кніжкі і газэты, пасылаць сыноў і дачок да гаспадарчых школаў і г. д. Вучачыся здабудзем тую патрэбную веду, якая неабходна дзеля добрага гаспадараваньня нашымі палявымі і лугавымі гаспадаркамі і гадоўлі жывога інвэнтару (быдла).

Праўда, і ў нас відаць поступ у гадоўлі кароў, але ён у цэлым краі гэтак малы, што прычыніцца да агульнага дабрабыту ён ня можа. Тых гаспадароў, якія вядуць гаспадарку і гадоўлю быдла разумна, дзякуючы здабытым ведамасьцям у школах ці то на гаспадарчых курсах, падлічыць лёгка, ёсьць іх мала—пара тысячаў, а дзе рэшта? дзе цэлыя мільёны?

Мусім тады абавязкава насьледаваць у гадоўлі быдла нашых заходніх суседзяў, бо толькі гэтым спосабам узбагацім нашыя гаспадаркі. Малочнасьць кароў у розных краёх вельмі высокая, і шмат яшчэ прайдзе часу, пакуль іх дагонім.

У Даніі карова даець сярэдня каля 3,300 кілгр. малака з 5,65 проц. клустасьці, што пералічанае на масла даець 137 кілгр. (1 кілгр.=$2^1/_2$ фунты). Падобна ёсьць у Галяндыі, потым ідуць Амэрыканскія Злучаныя Штаты, каторыя выказваюць каля 2.800 кілгр. малака, Нямеччына сярэдня 1.800 кілгр. У Аўстраліі дала карова расы Shortom 14.635 кілгр. малака ў год, г. зн. 818 кілгр. масла, ў Канадзе карова галяндзкае расы дала 15,212 кілгр. малака—668 кілгр. масла, у Нямеччыне карова тае самае расы дала 10,315 кілгр, малака, масла 484 кілгр. Цыфры гэтыя зразумела, рэкардовыя (найвялікшыя).

У нас прадукцыйнасьць, у параўнаньні з іншымі краінамі, вельмі нізкая. Сярэдняя гадавая

---

го ніколі зрабіць сам сабою не хацеў-бы, альбо не адважыўся-б. Людзей, якія патрапілі ўзгадаваць у сабе веру ў свае ўласныя сілы, мы называем людзьмі з сільнай воляй. Гэткі, што ні задумае, упорна ідзе да свае мэты, ажно дапне яе. Вера ў свае сілы дае яму моц у спыненьні ўсялякіх перашкодаў.

Як бачым, з праявамі гыпнотычных зьявішч спатыкаемся мы штодня, на кожным кроку. Падстваій іх зьяўляецца вера. Зачаткі гэтай веры ёсьць у кожнага чалавека. Калі чалавек сам сабою ўзгадуе і ўзмоцніць яе да тэй ступені, што вера гэная пачынае быць наказам для ягэ чынаў, тады мы маем справу з гэтак званым самогыпнотызмам, калі-ж гэтую веру давядзе ў нас да патрэбнага напружаньня некі іншы чалавек, то тады мы маем справу са звычайным гыпнотызмам.

Пры гыпнотызьме мае вялікае значэньне наказ у постаці слова, альбо гэтак званае парасейску „внушеніе", а папольску „sugestja". Гэная сугэстыя палягае на тым, што, што словамі сваімі гыпнотызор накідае гыпнотызаванаму сваю волю.

Як ведама, слова не зьяўляецца адзіным спосабам для выяўленьня думак чалавека. Апроч слова, вялікае значэньне ў паразуменьні чалавека з чалавекам мае міміка і жэстыкуляцыя. Адныімі словамі бяз мімікі і жэстыкуляцыі чалавеку вельмі трудна выказаць свае думкі. Вось я заўважыў, што чалавек загыпнотызованы выпаўняе ня тое, што гыпнотызор надумае, а толькі тое, як ён гэныя думкі свае выкажа словам. Калі-б гыпнотызор, скажам, абмыліўся і думаючы, каб загыпнотызованы стаяў на месцы, сказаў яму „бяжы", то загыпнотызованы гэтай абмылкі не даруе і стаяць ня будзе, а пабяжыць.

Наагул я заўважыў, што загыпнотызованы зусім не зьвяртае ўвагі на тое, што гыпнотызор думае, а толькі на тое, што ён гавора: кожнае слова яго выпаўняе, як людзі кажуць, з чыста нямецкай акуратнасьцяй. Яскравы прыклад гэткай акуратнасьці я бачыў у тым выпадку, аб якім пісаў, калі наказаў Марысі прынясьці мне пісьмо ад сябе. Гэтую думку сваю я выказаў так: „Прынясеш мне пісьмо ад сябе". Вось калі яна прынясла пісьмо, на капэрце пісьма з аднаго боку быў напісаны самым падрабязным спосабам мой адрэс імя і прозьвішча маё, а з другога боку напісана: „ад сябе". Напісаньня гэтага „ад сябе" у думках сваіх я зусім не вымагаў ад Марысі, а проста сказаў гэта „ад сябе", толькі таму, што інакш ня мог выказаць свае думкі.

А вось другі выпадак. Ня помню ўжо ў чым была справа, даволі таго, што прыйшлося мне ў аднэй кампаніі загыпнатызаваць раз за разам не-

прадукцыя малака каля 1.300 кілгр.; як з гэтага відаць нашая прадукцыя малака вельмі малая, дзеля гэтага мусім старацца павялічыць прадукцыйнасьць кароў, праз адпаведны дабор, праз лепшае кармленьне кароў і ўрэшце праз зьвяртаньне большае ўвагі на якасьць каровы: самая колькасьць каровіх хвастоў ня кажа яшчэ нічога: пяць хвастоў і 15 літраў малака, ці 3 хвасты і 25 літраў малака—на гэтыя справы трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу.

— А калі я маю дрэнную пашу, дрэнныя хлявы, ды гэткая маленькая свойская кароўка. . .

Калі маеце дрэнную пашу, трэба яе паправіць, прачытаць адпаведную кніжку і навучыцца.

Галоўныя недахопы нашых сяньняшніх гаспадарак—гэтае надмернае пашырэньне гадоўлі збожжаў на некарысьць кармавых расьлінаў; адсюль вынікае недахоп пашы, адсюль дрэннае кармленьне інвэнтару, недахоп гною і наагул малыя ўраджаі. Гадоўлю караньплодаў, як буракі, морква, кукуруза, а таксама і траваў, як канюшына, люцэрна, эспацэр (які яшчэ да таго дае добрую пашу для пчолак, дзеля таго, што ў іх красках ёсьць шмат нэктару), мяшанкі і інш. абавязкова трэба пашырыць. Падобная зьмена ў гаспадарцы ня толькі прычыніцца да павялічэньня пашы, але і да ўзбагачэньня ральлі. Вельмі рэдка гаспадары засяваюць па палёх травы, дык скуль возьмеш добрую пашу для жывёліны? З лугоў нашых?—Але-ж яны найчасьцей мокрыя, кіслыя, заімшэлыя. Ці з гэткіх лугоў можна мець добрую пашу — не, ня можна і ня маем. Дзеля гэтага і лугі трэба папраўляць.

Цяпер абгаворым найгалаўнейшыя грахі гадоўлі, якія робім несьвядома, альбо не зьвяртаем на іх асаблівае ўвагі.

Фундамэнтам у гадоўлі быдла зьяўляецца, як ведама, *бугай*. У выбары бугаёў робім памылку, выходзячы з прынцыпу, што калі карова благая, нерасовая, немалочная, дык і бугай можа быць благой вартасьці, бо такі будзе найтаньнейшы. Танны і нерасовы бугай, гэта найвялікшы вораг гадоўлі. Няма бугая надта добрага, а таму і надта дарагога. Танны і дрэнны бугай не папраўляе нашых кароў, але наадварот, вартасьць іх яшчэ пагоршыць.

Благі бугай толькі благія можа даць цяляты, а гэткія памылкі—і памылкі вельмі важныя, гаспадары робяць вельмі часта.

Бачым няраз бугая з лобам і каркам вымаганым у гішпанскай барацьбе быкоў, з вялікай галавой, вузкім задам, ногі маюць форму літары О альбо Х, а ў дадатку злоснага і дзікога.

І вось першы грэх гадоўлі.

А як выглядаець у нас гадоўля цялят? Ня можна назваць гэта гадоўляй, калі тое, што ўродзіцца, ня ведама якога паходжаньня, якія маець добрыя бакі, касматае, кудлатае, камбінацыя розных расаў. Вывядзець гаспадар яго на кірмаш і прадасьць разьніку за $1/2$ таго, што яму каштавала гадоўля.

Але цяля цялём—будзе, карова, то-ж аб гной ідзець. І вось бачым часта гэткія цяляты ня толькі ў меншых гаспадароў; такое колькітыднёвае цяля, выглядаець, як страхацьцё, з раздутым брухам, і занікаючай грудной клеткай, пакрыўленымі нагамі, аброслае сухімі і доўгімі кудламі. А бяздонныя сумныя вочы выразна крычаць аб помсьце да неба за крыўду, якая няслушна сустрачае яго ад гадавальніка, найдасканальнейшага твору Божага.

Пры кармленьні цялят у першых тыднях жыцьця, малака ня можна нічым замяніць, адзінаю ежаю нованароджнага можа быць толькі чыстае малако. Ведама, што ў першых тыднях жыцьця ў цяляці дзейны толькі праўдзівы жалудак, а папярэднія (торба, чапец і кніга) зусім яшчэ неразьвітыя.

Вядома таксама, што кожная жывёліна мусіць патраціць значную колькасьць часьцін пашы

---

калькіх сваіх таварышаў. Я загыпнатызаваў аднаго з іх, Стасюка І., наказаў яму што трэба і разбудзіў. Тады забраўся да другога. Загыпнатызаваў і гэтага і наказаўшы яму таксама разбудзіў. Гляджу, ажно Стасюк І. сьпіць ізноў. Я яго ізноў разбудзіў. Ен прачхнуўся, ачухаўся. Праз нейкі час падышоў да мяне, пачалі мы з ім гаварыць, глянуў ён мне ў вочы, гляджу, ізноў пачынае міргаць вачамі і засынае. А бадай цябе! Я ізноў яму наказаў прачнуцца. Пачакаўшы трошкі — ізноў тая самая бяда. Гляне мне ў вочы, пачынае міргаць і засынае. Тады я пасадзіў яго на крэсла, увёў у глыбокі гыпнатычны сон і наказаў яму гэтак: „Як накажу, дык зараз і прачнешся, але выйдзеш ужо з-пад майго гыпнотычнага ўплыву. Прачніся!“ Ен прачнуўся і больш, гледзячы мне ў вочы, не засынаў.

Але надзіва, таго, што я яму раней наказаў (здаецца, ішло аб тое, што яму страшэнна хацелася ехаць на Вялікдзень на вёску да хаты, а справы вымагалі, каб ён сядзеў у Пецярбургу і дзеля гэтага я наказаў яму з Пецярбургу не выяжджаць), ён ня выпаўніў і паехаў такі да хаты.

Праз нейкі час ізноў прыйшоў да мяне з нейкай просьбай. Я згадзіўся і пачаў гыпнотызаваць яго, але надзіва той самы Стасюк, які калісь засынаў ад першага пагляду ў мае вочы, цяпер ані не паддаваўся гыпнотызму. У чым справа? Ен выпаўніў апошні мой прыказ: „выйшаў з-пад майго гыпнотычнага ўплыву“. Каб свой наказ калісь я даў у іншай формеі, прымерам, гэтак: „прачхніся, але без майго наказу засынаць гыпнатычным сном ня будзеш“, дык пэўна ня езьдзіў-бы да хаты на Вялікдзень і паддаваўся-б далей гыпнозу. Гэты характарны рыс, на які я зьвярнуў увагу, мае вялікае значэньне і, даючы загыпнотызаванаму наказ, трэба добра памяркаваць, падумаць, і сказаць яго ў гэткай форме, каб гыпнатызованы ня мог, як той казаў, да чаго-небудзь прычапіцца.

Канчаючы свае гутаркі аб гыпнотызьме, у якіх я хацеў пазнаёміць чытачоў з гэтым зьявішчам, праявы каторага мы бачым і ў штодзенным жыцьці, я ў канцы хачу яшчэ раз падкрэсьліць, што гыпнотызм ня жарты і ня цуд.

Псыхічная сувязь, якая істнуе паміж людзьмі, уплыў аднаго чалавега на другога, які ў звычайных варунках ня кідаецца так моцна ў вочы, у пэўных варунках, можа быць давядзены да поўнага падпарадкаваньня волі аднаго чалавека, волі другога.

Людзі, якія, дзякі сваім індывідуальным рысам, альбо дзякі ўменьню, маюць гэны ўплыў на іншых людзей, павінны яго выкарыстваць для іх дабра.

*Д. П.*

на абаграваньне свайго арганізму (цела). У старэйшага быдла гэткім матар'ялам можа быць сена, салома, пасьледкі збожжа і г. д., а ў цяляці толькі клустасьць ёсьць гэтым матар'ялам—і толькі яго цяля прысвоіць можа. Дзеля гэтага клустасьці, якая знаходзіцца ў чыстым малаку, забіраць ня можна, бо, абкрадаючы гэтак нованароджанага, змушаем яго ўвесь час гібець, марнець. Прырода, ратуючы бедака ад сьмерці, пакрываець яго па меры магчымасьці доўгім валосьсем, але бяз блеску, мёртвым.

Калі-ж у дадатку шкадуем і зьбіранага малака, а змушаем цяля есьці гэткія пашы, якім яго жалудачны апарат ня можа даць рады, дык вынік будзе трагічны.

Гэта другі грэх.

Карову трэба карміць. Мусім памятаць, што карова—гэта, як фабрыка, перарабляець пашу на малако. Малочных кароў толькі дзеля гною ня варта гадаваць. Мусяць яны, апрача гною, даць яшчэ хаця маленькую карысьць, надвышку, альбо хаця гэтак заплаціць за пашу, каб гной застаўся задарма. Калі-ж хочам вытвараць малако на гандаль, дык да таго патрабуем машыны (каровы), каторая найляпей, найкарысьней перарабляець пашу, г. зн. каровы добрай, якая паходзіць з расы, каторая ад сотняў гадоў, ад вельмі шмат якіх пакаленьняў у гэтым імення кірунку выгадоўвалася. Калі-ж да гэтай мэты ўжываем каровы дрэннай, ня культурнай, дык гандаль мусіць быць горшы, а нават зусім дрэнны.

Чым лепшая карова, тым лепш трэба яе карміць, але кошты гэтыя карова з надвышкай заплаціць малаком. Дрэнныя каровы толькі губяць пашу і прыносяць толькі страты.

Што іншае каровы голадам мучыць, а што іншае ізноў іх добра карміць.

Калі-б гаспадар вёў у сябе гаспадарскія рахункі і дакладна ў іх аблічваў, колькі даходу прыносіць яму карова, дык пераканаўся-б тады, колькі траціць у год на трыманьне кароў благіх, дрэнна кормленых, каторыя, апрача назозу—карова,—нічога больш ня маюць.

Дзеля гэтага карысьней трымаць тры каровы добрыя, чымся пяць благіх—дармаедаў. Меней тады будзе, разумеецца, гною, але за тое куды лепшага. Бо добра кормленая карова даець і гной лепшы, каторы заменіць па сваёй вартасьці колькасьць гною большую, адтрыманую ад кароў блага кормленых.

Дзеля гэтага не на колькасьць, а на якасьць кароў трэба зьвяртаць увагу.

Калі тады ўмела будзем карміць цяляты, ялавіцы, пастараемся каб быў добры бугай, каровы добра карміць і дбаць аб чыстаце хлявоў будзем, дык пераканаемся, што пасьля некалькіх гадоў з нашых цялят дачакаемся добрых кароў, каторыя ня ўступяць заграшнічным. А калі тады нашыя каровы палепшаюць, колькі скарыстаем на малочнасьці, вартасьць іх павялічыцца ў некалькі разоў, а гаспадаркі нашыя ўзбагацеюць.

Не адзін гаспадар скажаць, што гэткае кармленьне цяляці, г. з. гадоўля каровы, апрача працы, шмат яму каштаваць будзе. Аднак, калі-б мы пачалі лічыць, дык аказалася-б якраз наадварот, аказалася-б, што тое, што каштуець дорага пасьля аплаціцца ў шмат разоў.

Добра ведаем, што „за малыя грошы сабакі мяса ядуць"—і што пры гадоўлі цяляці трэба з ім як быццам заключыць умову, бо калі-б яно ведала, чаго чалавек ад яго хацець будзе ў будучыне, дык сказала-б: „добра, калі хочаш ад мяне мець шмат добрага малака, клустага і смачнага мяса, харошага выгляду,—дык дай мне гэтулькі і гэтулькі сена, атрубей і г. д., чысты, відны і абшырны хлеў, добрую падсьцілку, даглядай мяне старанна, а калі не, — дык будзем паквітаваны, бо „што пасееш, тое й пажнеш".

(*„Poradnik Gospodarczy"*).

---

# Штучныя гнаі.

## Д. Пабочныя ўгнаеньні.

Пад гэтым назовам вядомы матар'ялы. якія ня маюць у сабе кармавых складнікоў для расьлін, але ўсё-ж такі яны паляпшаюць структуру (будову) грунту, робячы ў ім хімічныя перамены і памагаючы расьлінам браць корм з грунтоў. З гэтакіх дзейнікаў на першым пляне будзе **вапна**. Вапна вельмі добра дзейнічае на глiністыя грунты, прысьпяшаючы разлажэньне арганічных складнікоў, якія маюць у сабе азот; а на грунтох тарфяных і балотных, апрача вышэйагаворанага, вапна яшчэ аслабляе кіслотнасьць грунтоў і робіць іх прыгоднымі для культуры. Вельмі халодныя грунты вапна саграваe. Нягашанаю, едкаю вапнаю можна вапнаваць толькі сільна кіслыя балотныя грунты з неразложаным махавым пакровам; усе-ж мінэральныя — орныя грунты лепш вапнаваць гашанаю вапнаю. Каб вапнаваньне дало пэўную карысьць, яно павінна адбывацца ў сухі дзень раньняю восеньню, або ў канцы траўня, ці ў пачатку чэрвеня, калі зямля ўжо даволі прасохне. Адразу многа даваць вапны ня трэба, бо сільнае вапнаваньне забівае бактэрыяльнае жыцьцё грунту і само вапнаваньне павінна адбывацца задоўга да ўнясеньня хлеўнога гною, або супэрфосфату ў грунт.

З расьлін, якім надта карысна вапна, будуць: канюшыны, гарох, усе збажыны, а на лён, каноплі і бульбу вапна часта бывае шкоднай. Для ўгнаеньня трэба браць вапну-кіпелку якіх 1000 — 2000 кілёгр. (60—120 пуд.) на гэктар, раскладваць яе кучкамі па полі і прыкрываць зямлёю, а тыдняў праз два-тры, калі вапна стане гашанаю, раскідаць па полі і заараць на глыбіню 10 — 20 сант.

Хаця немцы і кажуць, што „Вапна ўзбагачвае бацькоў, а рашае дзяцей",—гэткі пагляд ня зусім правідловы, бо вапна памагае ўсваяць або карыстаць расьлінам з тых крупінак грунту, якія бяз вапны засталіся-б няприступнымі для ральлі. Асабліва патрабуюць вапнаваньня сенажаці і балоты, якія заўсёды надта кіслыя.

**Мергель**—або іначай вуглякіслая вапна зьмешанiяю гліны або пяску, гэтак сама добра надаецца для вапнаваньня грунтоў, толькі яго трэба ўсяваць на адзін гэктар многа больш, гэтак да 600—980 пуд. Для цяжкіх грунтоў лепш будзе пясчаны мергель, а для сярэдніх — мергель, які больш багаты вапнаю. Часта яшчэ ўжываецца **гіпс**, або сернакіслая вапна, які асабліва карысны пад канюшыны, бо гіпс разгушчае тыя мінэралы, якія маюць у сабе калі або паташ.

Перапалены гіпс называецца **алебастрам** і яго даюць на гэктар 200—300 кілёгр. (12 — 18 пуд.). Гэтак-жа карысна на грунты гліністыя навязьці якіх 500 пуд. тарфяной зямлі або торфу, ад чаго

гэныя грунты робяцца пухкімі.

**Бактэрыяльныя ўгнаеньні**, якія маюць у сабе культуры бактэрыяў лубінаў, люцэрны, сарадэлі або вікі. Гэткія бактэрыі вядомы пад назовам **нітрагіну**; карыстаюцца імі, калі хочуць у першы раз на сьвежым грунце сеяць удачліва лубін, сарадэлю або канюшыну. Узамен нітрагіну часта бяруць тэй зямлі, дзе расьлі гэныя расьліны, і раскідаюць на новым месцы, каб лепш прыймаліся яны.

Каб ведаць, як вялікая патрэбнасьць правідловага ўгнаеньня ворнае і сенакоснае зямлі, без чаго ніколі не апануем сакрэту ўраджаяў Заходняе Эўропы, можа служыць ніжэй паданая табліца досьледаў, няраз робленых вучонымі агрономамі-хімікамі, сколькі розныя расьліны гаспадарскія кожны год забіраюць з грунту патрэбных ім спажыўных складнікоў; і вось няхай кожны гаспадар задумаецца, ці дае ён з паваротам у зямлю патрэбнае ўгнаеньне, часта ўжываючы яго ў постаці сухога непераправўшага або выветраўшага саломеннага гною, ці кіслага асаковага сена, ды яшчэ часамі неразумна прадаючы на старану салому, ня кажучы ўжо аб зярнятах.

Аб сенажацях няма чаго і казаць — з іх вякамі карыстаюцца, косячы сена, як кажуць, цягнуць сокі з зямлі, а ўзамен сенажацям нічога не даецца, ды толькі дзівяцца, што травы штогод пачынаюць горш радзіць і менш зьбіраецца сена, як пры дзядох. Дык вось розныя расьліны, даючы сярэдні ўраджай зярнят у пудох, забіраюць з сабою з зямлі—азоту, фосфару, калію і вапны, што паказваецца ў кілёграмах.

| | | Сярэдні ўраджай у пуд. з гэктару | Забіраецца з ураджаем, апрача пажніўнага ржышча ў кілёгр. Азоту | Фосф.кв. | Калі | Вапны |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Жыта . . . . | 53 | 48,2 | 26,1 | 52,3 | 24,0 |
| 2. | Пшаніца . . | 84 | 71,2 | 28,6 | 38,2 | 31,0 |
| 3. | Авёс . . . . | 67 | 52,0 | 22,0 | 58,5 | 39,0 |
| 4. | Ячмень . . . | 67 | 47,6 | 20,5 | 36,2 | 21,0 |
| 5. | Бульба . . . | 500 | 63,2 | 28,0 | 97,8 | 75,0 |
| 6. | Буракі карм. | 1500 | 108 | 45,0 | 256,5 | 85,0 |
| 7. | Гарох . . . . | 66 | — | 27.3 | 49,9 | 117,0 |
| 8. | Віка . . . . | 160 | — | 29,8 | 94,6 | 110,0 |
| 9. | Канюшына . | 150 | — | 25,5 | 83,7 | 200,0 |
| 10. | Сарадэля · . | 130 | — | 36,4 | 127,6 | 27,0 |
| 11. | Кукуруза . . | 200 | 114,0 | 60,0 | 222,0 | 137,0 |
| 12. | Сена луг. . . | 200 | 93,0 | 25,8 | 96,0 | 23,0 |
| 13. | Лубін жоўты | 50 | — | 26,3 | 52,5 | 50,0 |

Як гэта ўжо даўно даказана, ўсе матыльковыя, як гарох, віка, канюшына і ўсе лубіны з сарадэляй, карыстаючы самі з азоту, яшчэ пакідаюць яго ў грунце на адзін гэктар, у сярэднім, гэтулькі азоту ў кілёграмах:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Гарох | пры сярэд. | ураджаі | 223 кіл. |
| Лубін сіні | „ | „ | 190 „ |
| Лубін жоўты | „ | „ | 143 „ |
| Віка | „ | „ | 184 „ |
| Сарадэля | „ | „ | — „ |
| Канюшына чырв. | | „ | 220 „ |
| Люцэрна | „ | „ | ·256 „ |

Тут трэба заўважыць, што каб уняеьці ў грунт з хлеўным гноем 98 кілёгр. азоту, то трэба даць на гэктар 600 вазоў па 30 пуд. сярэдняга гною.

*Я. Х.*

# ПЧАЛЯРСТВА.

## Утрата маткі.

(Гл. № 20 „Б. Д.“).

Часта матка можа згінуць ад зусім ад яе незалежных прычынаў, альбо зноў-жа можа згінуць ад свайго калецтва, г. зн. ад неправідловага разьвіцьця. Калі пчаляр у час ня здолеець зарадзіць гэтай бядзе, дык можа ўвесь вулей зьніштожыцца і прапасьці марна.

Падчас раеньня матка часта губляецца ад таго, што крыльля ад самага роду блага разьвіліся, альбо ад таго, што хаця ад роду крыльля яе былі добра разьвітыя, але потым па якіх-колечы прычынах яны сапсаваліся, прыкладам матка іх дзе-небудзь у вульлі падрала; гэта так сама можа стацца прычынаю яе згубы; яна вылецеўшы з вульля можа ўпасьці дзе-колечы ў траву і там загінуць. Як матка згубіцца падчас раеньня, то рой, пасядзеўшы трошкі на дрэўку, вяртаецца зноў у свой стары вулей. У найбольшай часьці маткі гінуць падчас свайго злучэньня з трутнем. У некаторых матак крыльля ад роду да таго слаба разьвітыя, што яны, вылецеўшы з вульля, ня могуць вярнуцца назад у той-жа вулей; другіх зноў-жа матак ловяць птушкі, але найбольшы іх лік гіне ад таго, што яны ня могуць знайсьці потым свайго вульля. Хаця матка і стараецца запамятаваць той вулей, з якога яна вылецела, кружачыся праз даўжэйшы час вакол яго, абярнуўшыся да яго галавою, але ўсё-ж маладая матка часта не пазнаець свайго вульля, часта яна стараецца ўлезьці ў чужы вулей, прыймаючы яго за свой, але яе там забіваюць пчолкі таго вульля і выкідваюць вон. Падобныя памылкі здараюцца тады, калі на пасецы ўсе вульлі аднолькавых разьмераў, аднолькавага колеру, калі недалёка пастаўлены адзін ад аднаго і калі ўсе ляткамі абернуты ў адзін бок. Дзеля гэтага, каб унікнуць падобных выпадкаў, трэба вульлі хварбаваць на розныя колеры, тады матцы, а гэтак сама і пчолкам, лёгка будзе запамятаваць палажэньне вульля. Згуба маткі ад дружака, ці ад вульля вельмі сур'ёзная для пчаляра, дзеля таго, што вывад дзеткі ўжо даходзіць да канца, а ў дружакоў зусім ужо няма чарвы, дзеля гэтага пчолы новае маткі ня могуць высядзець.

Як толькі рабочыя пчолкі схамянуцца, што ў іх няма маткі, то яны хутка даюць знаць аб гэтым. Яны бегаюць з кутка ў куток па вульлі, выбягаюць наверх, ізноў убягаюць у вулей, быццам нечага шукаючы. Гэткая неспакойнасьць пчолкам аб'яўляецца якраз дзён праз тры раніцаю, калі яшчэ другія пчолы сядзяць спакойна. Пераканаўшыся ўрэшце ў згубе маткі, пчолы супакойваюцца, а нават часамі пачынаюць і працаваць, але ўсё-ж такі відаць з іх захаваньня, што ім чагосьці бракуець. Вяртаючыся з поля, пчолы заместа таго, каб з пасьпехам улятаць у вулей, як гэта яны робяць заўсёды, яны затрымоўваюцца на лятку, нібы думаючы, ці ім увайсьці ў вулей, ці не. У гэтакі час яны не чапаюць трутняў, тады як у іншых вульлёх трутні ўжо пабітыя, альбо прагнаныя. Лік пчол у сям'і з кожным днём паменшваецца і, калі пчаляр у час не зарадзіць бядзе, вулей абязматчаны заўсёды гінець.

Тыдняў праз два пасьля першага, ці другога раеньня пчол, трэба заўсёды аглядзець вулей і пераканацца, ці ён ня страціў маткі, калі так, дык трэба старацца чым хутчэй прыйсьці пчолам з дапамогаю, даючы ім новую матку з запаснога вульля;у крайнім выпадку, калі ў пчол няма чарвы, трэба ім уставіць з другога вульля са дзьве рамкі з чарвою, а гэта дзеля таго, што пчолы на такой чарве адразу ж заложаць маточнік і пастараюцца высядзець сабе матку. Калі сям'я зусім слабая і мона спадзяваацца, што пчолы не здалеюць высядзець сабе маткі, тады можна два слабенькія вульлі злучыць у адзін.

Часамі маткі губяцца зусім прыпадкова: часта яны задушваюцца пры неасьцярожным выйманьні рамаў з вульля, асабліва тады, калі паміж рамак цесна.

Узіму, калі вулей блага забясьпечаны ад холаду, можа часта здарацца так, што матка перамерзнуўшы, зробіцца няплоднаю, хоць-бы ў вульлі не замерзла ні аднэй пчалы.

Няплоднасьць маткі можа здарыцца і ад доўгае галадоўкі; хаця такая няплодная матка і будзець жыць у вульлі, але ўсё роўна гэты вулей будзець засуджаны на згубу, так, як і вулей абязматчаны, дзеля таго, што сям'я ня будзе павялічвацца вывадам новых пчолак-работніц.

Маткі ўміраюць гэтак сама і ад старасьці паміж трыма і пяцьма гадамі. Старасьць маткі праяўляецца ў тым, што яна становіцца менш плоднаю, кладзе менш яечак, у некаторым выпадку выключна трутнёвых. Як толькі плоднасьць маткі пачынае слабець, дык пчолы стараюцца вывязьці сабе новую матку. Калі матка паміpае ў той час, калі ў вульлі няма чарвы, альбо няма трутняў для запладненьня маладое маткі, дык гэткую сям'ю можна лічыць абязматчанаю, бо ня будзе класьці яечак альбо будзе класьці толькі трутнёвыя. Гэткую матку трэба зьмяніць другою, апладненаю маткаю.

Калі ўтрата маткі будзе замечана раньняю вясною, альбо позьняю восеньню, як у вульлі няма трутняў і няма магчымасьці даць пчолам плодную матку, дык гэтую абязматчаную сям'ю найляпей будзе прылучыць да другога большменш слабога вульля, дзеля таго, што ўсё роўна бескарысна даваць у вулей чарву, калі матка ня можа быць запладненаю.

Руплівы пчаляр ніколі не дапусьціць да таго, каб матка ў вульлі пастарэла; ён яе выймець і заменіць другою ўжо на другім годзе; ад гэтага вулей ніколі ня страціць на сваёй сіле.

Здараецца часта, што калі сапраўдная матка паміpае ў вульлі, то на яе месца знаходзіцца самазванная матка-пчэла, якая пачынаець класьці толькі трутнёвыя яечкі. Самае лепшае лякарства збавіцца ад гэткага самазванца: гэта разьдзяліць сям'ю з гэткаю маткаю, паміж другіх вульлёў. У тым вульлі, дзе пападаецца такая самазванная матка, яе пчолы самі задушаць, дзеля таго, што там ёсьць ужо сапраўдная матка.

Некаторыя пчаляры радзяць яшчэ і другі спосаб збаўленьня сям'і ад трутоўкі: гэта дастаць з вульля ўсе пчолы ў якую-небудзь каробку і потым пачаць іх зноў упушчаць у вулей, як звычайны рой, на стале, ці на палатне,—акажацца, што каля самазваннае пчалы-маткі будзець клубок пчолак; ня могучы з пасярод іх пазнаць самазванца, трэба гэты клубок пчол увесь задушыць. Ратунак больш зьверскі, як рацыянальны, спраўляець шмат клопату і работы, але яго часамі pro publico bono вульля можна выкарыстаць, асабліва калі сям'я надта вялікая і нам шкода яе разьдзяляць па другіх вульлёх і калі ў нас ёсьць пад рукою запасная матка.

Як пчолы вясною не стараюцца зьбіраць пяргі ў большай колькасьці, калі ўжо ў іншых вульлёх кіпіць добра работа, дык гэта можа паказваць на тое, што пчолы альбо хворыя, альбо ў іх няма маткі; дзеля гэтага трэба паруціцца пчаляру зараз-жа аглядзець вулей і сконстатаваць, ці ёсьць там матка, ці не. Абязматчаныя пчолы часта не зьніштажаюць трутняў увосень і пакідаюць іх на цэлую зіму ў вульлі ў надзеі высядзець новую плодную матку, тады як ува ўсіх іншых вульлёх трутні ўжо зьніштожаны.

Гэтая праява пчол проста ўжо кажа, што ў іх няма маткі. Трэба зараз-жа ў такім выпадку зарадзіць гэтай бядзе.

*Пчаляр.*

## БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

### Новая беларуская кніжка.

Д-р Бр. Гуронак напісаў кніжку пад назовам „Гігіена ўзгадаваньня дзіцяці“.

### З Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры зьвярнуўся з просьбай да Віленскай Кураторыі аб дазволе на адчыненьне ў Вільні Беларускай Вучыцельскай Сэмінарыі.

### Рэха забастоўкі ў Беларускай Гімназіі ў Наваградку.

Дырэкцыя Беларускай Гімназіі ў Наваградку прыхілілася да просьбы беларускіх паслоў і згадзілася з новага вучэбнага году прыняць 50 вучняў пачынальнікаў забастоўкі.

### Арышт пасла Стагановіча.

4 чэрвеня г. г. ў Наваградку арыштованы пасол з клюбу „Змаганьне“ Стагановіч.

### Зьезд Т-ва Беларускае Школы ў Баранавічах.

27 траўня г. г. ў Баранавічах адбыўся паветовы зьезд Т-ва Беларускае Школы.

### Інтэрвэнцыя пасла Валынца ў Вялейскага старасты.

Па поваду ліквідацыі Гурткоў Т-ва Беларускае Школы з прычыны канцэлярскіх недакладнасьцяў у Асіповічах, Порсе, Каловічах і Хаўтках інтэрвэньяваў у Вялейскага Старасты пасол Ф. Валынец.

## Новыя кніжкі.

У траўні месяцы г. г. беларускае друкаванае слова павялічылася двума прыгожымі выданьнямі.

„Віленскае Выдавецтва“ Б. Клецкіна, выпусьціла з друку твор амэрыканскага пісьменьніка

Марка Твэна *„Прынц і Жабрак“ повесьць для юнацтва* ў перакладзе на беларускую мову вядомага пісьменьніка і перакладчыка Краўцовага Макара.

Кніжка гэтая запоўніла істнуючы ў беларускай літэратуры прабел лектуры для дзяцей.

Дзеля гэтага астаецца толькі прывітаць гэтае выданьне „Віленскага Выдавецтва“ Б. Клецкіна, ўжо добра заслужанага для беларускае літэратуры. З другога боку выданьне гэтае кніжкі цераз прыватнае выдавецтва сьведчыць аб тым, што беларуская кніжка знаходзіць набыўцаў.

Кніжка выдана на добрай паперы з прыгожай вокладкай—мае 215 саронак. Пераклад добры, аб чым гаворыць само імя перакладчыка. Вітаючы выданьне „Прынца і Жабрака“, спадзяемся, што сьлядамі Віленскага Выдавецтва пойдуць і другія беларускія выдавецтвы, даючы прыгожыя выданьні для падрастаючага пакаленьня, якое горнецца да добрае кніжкі ў роднай мове.

Другім выданьнем, якое ўнясло „новае слова“ ў нашую літэратуру ў Заходняй Беларусі, зьяўляецца поэма „Сымон Музыка“, Якуба Коласа, якая вышла стараньнем і накладам Таварыства „Пагоня“.

І гэтая новая кніжка ў літэратуры Заходняе Беларусі (на ўсходзе „Сымон Музыка“ выданы даўно, але ня мог быць пашыраны) можа быць аднесена да аддзелу лектуры для дзяцей, тым больш, што героем поэмы зьяўляецца малады і малы вясковы хлапец, якога перажываньні знайдуць одгук у душы кожнага маладога чытача. Кніжка выдана вельмі прыгожа, мае 211 старонак, у пекнай вокладцы з партрэтам нашага вялікага песьняра. Таварыства „Пагоня“ заслужылася для нашага пісьменства, выпусьціўшы ў сьвет „Сымона Музыку“. Гэтае выданьне, трэба спадзявацца, будзе хутка раскуплена, а тады на чарзе другое, ў якім мо' выдавецтва паправіць усе памылкі друку. Гэтых памылкаў у поэме „Сымон Музыка“ вельмі многа і гэта вялікі недахоп кнігі. Трэба паважней адносіцца да аўтора і чытача.

Заадно з гэтым нельга аставіць бяз увагі выданьня „Новае Зямлі“, часьць І-ая, якая вышла пад рэдакцыяй д-ра Янкі Станкевіча.

„Новая Зямля“ лічыцца найвыдатнейшым творам беларускае літэратуры. Эпопэя сялянскага жыцьця, жыцьця беларускага, твор, які можа раўняцца з найвялікшымі творамі другіх славянскіх народаў. І ня бачачы на гэта, д-р філёлёгіі, ад якога здавалася-б трэба чакаць пашаны да беларускае літэратуры і яе твораў, выдаў „Новую Зямлю“ ў такі спосаб, што сорамна кніжку браць у рукі, а ўжо ніяк нельга пахваліцца ёю, як найпрыгажэйшым творам Якуба Коласа. Благая папера, дрэнная вокладка, фармат лубачных выданьняў найтаньнейшага маскоўскага ці яраслаўскага рынку, які выпускаў у такі спосаб розныя соньнікі ды „любоўныя пісьмы“. Аказваецца, што дыплём дохтара не зьяўляецца кваліфікацыяй на выдаўца і знаўцу беларускае літэратуры. Д-р Янка Станкевіч павінен узяць назад з кнігарняў сваё выданьне „Новае Зямлі“, якая дачакаецца належнага і суменнага выдаўца. Апрача таго на „Новай Зямлі“ наш рэфарматар правапісу застасаваў сваю фонэтыку і далучыў без патрэбы на сьмех толькі крытыку русыцызмаў і палянізмаў Коласа, замест якіх др. Янка Станкевіч радзіць ужываць словы раз беларускія, раз „крыўскія“. Усё гэта разам толькі адаб'е ахвоту ў чытача чытаць „Новую Зямлю“, над якою фатальна павіснуў характар аднаго аддзелу з „Народу“ пад загалоўкам „Дзівосы і сьмяхоты“ *С.*

# Апошнія навіны.

**Кітай.** Войска Чай-Кан-Шэка заняло Пэкін сталіцу Кітаю. Такім чынам вызваленча-нацыянальны рух Кітаю аднёс рашучую перамогу над рэакцыйным гэн. Чанг-Тсо-Лінам, які астаецца на ўслугах Англіі і Японіі.

**Югаславія.** У вялікшых местах Югаславіі на днях адбыліся крывавыя дэманстрацыі проціў фашыстоўскае Італіі. Дэманстрацыі былі выкліканы намерам Югаславянскага ўраду ратыфікаваць дагавор з Італіяй. Асабліва крывавыя былі дэманстрацыі ў сталіцы Югаславіі Бэльградзе. Паліцыя змушана была страляць да дэманстрантаў, якія збудавалі на вуліцах барыкады. Шмат дамоў і крамаў італьянскіх падданых у Югаславіі дэманстранты паразьбівалі.

**Польшча. Нота Польшчы—Літве.** У зьвязку з абвяшчэньнем новай літоўскай конституцыі, ў якой сталіцай Літвы прызнаецца Вільня, польскі міністар заграніччных справаў, пераслаў Літве ноту наступнага зьместу:

Урад літоўскі абвясьціў папраўлены тэкст конституцыі, дзе ў 5 параграфе праклямаваў Вільню сталіцай Літвы. Я змушаны заявіць, што польскі ўрад уважае ўвядзеньне да літоўскай конституцыі гэтай папраўкі, скіраванай проціў тэрыторыяльнай нятыкальнасьці Польшчы, за парожнюю дэманстрацыю, пазбаўленую ўсялякага юрыдычнага значэньня і практычных наступстваў.

Гэты аднабаковы акт літоўскага ўраду ня можа ў нічым нарушыць правоў Польшчы да віленскай тэрыторыі, набытых на моцы ўрачыстага галасаваньня прадстаўнікоў мясцовай люднасьці ў Віленскім Сойме дня 20.ІІ 1922 г. і пацьверджаных пастановай Польскага Сойму 21.ІІІ 1922 г., што было прызнана Радай Амбасадораў 15.ІІІ 1923 г. і было прынята да ведамасьці Радай Лігі Народаў на скутак просьбы польскага і літоўскага ўраду 20.IV 1923 г. Апрача гэтага папраўка гэна стаіць у супярэчнасьці з духам і літарай пакту Лігі Народаў, а асабліва з пастановамі арт. 10, якія абавязваюць Літву і Польшчу. Я змушаны з прыкрасьцяй сьцьвярдзіць, што абвяшчэньне гэнай папраўкі праз літоўскі ўрад, можа толькі ўтрудніць цяперашнія польска-літоўскія перагаворы, якіх мэтай устанавіць адносіны, здольныя запэўніць спакой між суседнімі дзяржавамі і паразуменьне, ад якога спакой залежыць і дзеля гэтага мусіць яно быць уважанае за супярэчнае з пастановай Рады Лігі Народаў з дня 10.XV 1927 г. Пазваляю сабе зьвярнуць увагу, што забавязаньне Польскага ўраду да

пашаны нятыкальнасьці Літвы накладае на Літоўскі ўрад абавязак дастасаваць свае наступкі да гэтага самага прынцыпу.

Падпісана: *Аўгуст Залескі*

Міністар Загранічных Справаў і Старшыня Польскай Дэлегацыі.

**С. С. С. Р. Бунт безработных у Маскве.** Прыбыўшыя ў Маскву з правінцыі безработныя будаўлянага промыслу, чакаючы працы на маскоўскай біржы, збунтаваліся процiў міліцыі, якая іх хацела вярнуць дамоў. Каля 5.000 чалавек напала на міліцыю, цяжка раніла некалькі міліцыянэраў. Калі паявіўся патруль міліцыі, камандзер яго быў ранены і скінены з каня.





Адказны Рэдактар і выдавец Ф. Умястоўскі. Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны 3